

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№512 Верасень 2005 г.
Год выданьня 55

# Проста дэмакратыі – НЯМА

## Адкрыты ліст да Сьвятланы Алексіевіч

Нядаўняя гутарка Сьвятланы Аляксіевіч на Радыё Свабода ў перадачы Праскі акцэнт (24 жніўня), дзе яна спрачалася з Генадзем Бураўкіным пра лёсы Беларусі, насьцярожыла. Здавалася-б, тэма гэтая гавораная-абгавораная, пазыцыі абодвых бакоў даўно вядомыя і што да мовы, і што да дэмакратыі і да прыярытэтаў. Але штосьці-такі новае ў той гутарцы прасьлізнула. Давялося перачытаць пару разоў пакуль ня ўбачыла: спн. Алексіевіч фактычна прыняла на сябе цяжар аргумэнтаў самога Лукашэнкі... Першы - спачатку пабудуем палітычны лад па маім сцэнары, а тады й астатнім ідэям знойдзецца куток. Другі – у паразах вінаватыя нацыяналісты.

Некалькі цытат зь перадачы. Алексіевіч: "Нас нічому не навучыў нават досьвед паразаў 90-х гадоў, калі мы мелі такую моцную фігуру, як Пазьняк. Паставіўшы дэмакратыю ззаду, а мову наперадзе, мы прайгралі нават у той час, калі быў вялікі запас веры ў людзях, калі была вельмі моцная хваля антыкамунізму. ... у нацыянальным крыле няма палітыкаў. ... Яны не ўяўляюць рэальны народ,

**Заканчэньне на бачыне 2**

## Віцебскі тэатар у Амэрыцы

У кастрычніку сёлета Нацыянальны Акадэмічны Тэатар імя Якуба Коласа выступіць у **Бостане, Нью Ёрку і Кліўленьдзе.**

Запрошаны гэты слаўны беларускамоўны тэатар праз Гарвардзкі ўнівэрсытэт у сувязі з сымпозіюмам ***"Мастацтва, палітыка і нацыянальная сьведамасьць у сучаснай Беларусі"***.

Тэатар прадэманструе наступныя творы:

**"Шагал...Шагал..."** Уладзімера Драздова пра маладыя гады ў Віцебску сусьветна вядомага мастака Марка Шагала. Пастаноўка здабыла прызы ў шэрагу гарадоў Эўропы.

новую п'есу Сакрата Яновіча **"От Цо, Да"** пра складаны лёс Браніслава Тарашкевіча – дзеяча беларускага Адраджэньня.

**Нью Ёрк** – 19 кастрычніка а 7.30 вечара ў ***Brooklyn Music School and Playhouse*** па адрасу: ***123 St. Felix Street, Brooklyn***. (ззаду *Brooklyn Academy of Music* ля скрыжаваньня *Atlantic Ave* і *Flatbush Ave.*)

Кошт квіткоў на выступ у Нью Ёрку, купленых загадзя, **$25 і $15** (пры ўваходзе **$30 і $20**).

Чэкі, пазначаныя на гэтую мэту, трэба выпісваць на імя ***BIELARUS*** і дасылаць на адрас: ***BIELARUS, P.O. Box 3225, Farmingdale, N.Y. 11735***, залучаючы канвэрт із зваротным адрасам.

**Бостан** – 14 і 15 кастрычніка.
Сымпозіюм - ***Barker Center, Harvard University***
Спэктаклі - ***Arsenal Arts Center, Watertown, MA***

**Кліўленд** – 21 кастрычніка.
***Грамадзкі Цэнтар "Полацак", Strongsville, OH***

Болей інфармацыі на вэб-старонцы БАЗА: ***baza-belarus.org***

**Не прапусьціце нагоду пабачыць тэатар міжнароднага ўзроўню!**

# Мэмарандум Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі



Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, разгледзеўшы вынік тэндэру Эўрапэйскай Камісіі, паводле якога кантракт на радыёвяшчаньне для Беларусі быў **перададзены** расейскай службе **радыёстанцыі "Нямецкая Хваля"**:

• <u>прызнае</u> патрэбу міжнароднай дапамогі дзеля стварэньня альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі для жыхароў Беларусі, якія напрацягу дзесяцігодзьдзя застаюцца ізаляваныя ад аб'ектыўнай інфармацыі і знаходзяцца пад узьдзеяньнем хлусьлівай прапаганды рэжыму А. Лукашэнкі;

• <u>вітае</u> гатовасьць эўрапэйскіх інстытуцыяў дапамагчы беларускаму народу ў гэтай справе.

• <u>сьцьвярджае</u>, што пашырэньне дэмакратычнай палітычнай культуры на падставах эўрапэйскіх стандартаў і вартасьцяў, а таксма ўмацаваньне сьвядомасьці адзінства беларускай нацыі зь сям'ёй дэмакратычных нацыяў Эўропы ёсьць падставовым прынцыпам ды задачай дасягненьня свабоды і дэмакратыі ў Беларусі.

Адначасова, Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:

• <u>зазначае</u>, што пытаньне беларускай мовы ёсьць неабходнай умовай дэмакратызацыі краіны. У сувязі з гэтым пашырэньне ў Беларусі дэмакратычнай палітычнай культуры на грунце эўрапэйскіх стандартаў вымагае заахвочаньня ў грамадзкай сьвядомасьці ўсіх тых аспэктаў нацыянальнай спадчыны, што лучаць Беларусь з Эўропай. Гэта кантрастуе са спадчынай савецкай русыфікацыі ў грамадзкім жыцьці Беларусі ды з палітыкай сучаснага рэжыму, які, пасьля прыходу да ўлады ў 1994 годзе, дзеля сваіх палітычных мэтаў заахвочвае ды гвалтоўна накідае новую русыфікацыю;

• <u>назірае</u>, што заахвочаньне разуменьня адзінства Беларусі з Эўропай было пасьпяховым выключна на грунце нацыянальнай сьвядомасьці і грамадзкай культуры, якія гістарычна паўсталі ва ўмовах эўрапэйскага кантэксту, ды захавалі сьвядомую прыналежнасьць да яго. У супрацьлегласьць гэтаму, нішто з тае грамадзкае спадчыны, якую Беларусь дзеліць з Савецкім Саюзам або Расейскай імпэрыяй, не ўзгадоўвае сьвядомасьці роднасьці з Эўропай. З гэтай прычыны пануючы сёньня ў Беларусі рэжым насаджае ўсе аспэкты савецкай / расейскай спадчыны.

• <u>сьцьвярджае</u>, што да выбару мовы радыёперадачаў, што факт шырокага ўжываньня расейскай мовы ў Беларусі пад чужынскім панаваньнем ды пад рэжымам Лукашэнкі яшчэ ня робіць гэтую мову найбольш адпаведнай для названых вышэй задачаў. Беларуская мова таксама агульна зразумелая (аб чым сьведчаць зьвесткі афіцыйных перапісаў) і захоўвае статус афіцыйнай мовы ў краіне. Паколькі мовам у Беларусі ўласьціва гістарычна-палітычная матываванасьць, выбар мовы ня можа быць палітычна-нэўтральным;

• <u>дадаткова зазначае</u> адносна ўжываньня расейскай мовы ў фінансаваных Эўрапэйскай Камісіяй радыёперадачах для Беларусі, што гэткія падвойныя стандарты адносна роднай мовы нацыі – у параўнаньні з падыходамі, ужыванымі да суседніх краінаў - непраўданыя і непрымальныя. **Напрыклад, "Нямецкая Хваля" мае асобную ўкраінамоўную службу, нягледзячы на параўнальны зь беларускім узровень русыфікацыі ва Ўкраіне. Вышэйузгаданае** таксама пярэчыць усяму досьведу пасьпяховай дэмакратызацыі ў суседніх пост-камуністычных краінах, якая нязьменна ўключала адахвочаньне савецкай спадчыны ва ўсіх праявах грамадзкага і палітычнага жыцьця, ды замацаваньне новай нацыянальнай эўрапэйскай тоеснасьці на грунце гістарычных нацыянальных культураў;

• <u>заўважае</u>, што названае рашэньне выклікала ў Беларусі рэакцыю пратэсту, асабліва сярод палітычна-актыўнай часткі грамадзтва; гэтае рашэньне шырока разглядаецца як фактар захаваньня спадчыны савецкай русыфікацыі ў Беларусі і, як вынік, працягу цяперашняй палітычнай стагнацыі.

З увагі на зазначанае вышэй, Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі:

<u>робіць выснову</u>, што ў цяперашніх умовах праект **вяшчаньня на Беларусь не пабеларуску** ня будзе эфэктыўны ў дасягненьні сваіх мэтаў, паколькі канкрэтнае палітычнае значэньне, уласьцівае ў рэаліях Беларусі расейскай мове вострa супярэчыць сутнасьці яе прызначэньня.

Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выказвае шкадаваньне аб рашэньні Эўрапэйскай Камісіі ўхваліць радыёвяшчаньне для Беларусі ў яго сучасных моўных парамэтрах ды настойліва заклікае да тэрміновага перагляду гэтага рашэньня, каб фармат радыёвяшчаньня адпавядаў мэтам дасягненьня дэмакратыі і свабоды ў Беларусі.

# Проста дэмакратыі – НЯМА

*Заканчэньне з бачыны 1*

яны ўяўляюць уласную мару аб народзе.»

«Наш народ у асноўным расейскай сьвядомасьці. Я шмат езьдзіла па Беларусі й пераканалася, што тыя людзі, пра якіх мы гаворым, ёсьць толькі пад дахам "АРХЭ" ці "Нашай нівы", можа ў студэнцкіх інтэрнатах, але ня ўся нават моладзь такая."

«Ёсьць адзіны праект - дэмакратычны. А яго складнік - нацыянальны праект.»

"Я крыху сачыла за дыскусіяй (дыскусія пра мову вяшчаньня «Нямецкай хвалі») і была зьдзіўленая яе рамантызмам і агрэсіўнасьцю адначасна."

«Мне здаецца, што цяперашняя дыскусія дэманструе адну з траўмаў, якую дае культуралягічнае, клюбнае мысьленьне, калі маленькая група асобаў, скансалідаваная вакол вельмі прыгожай і шчырай ідэі, падабаецца самой сабе. Яны настолькі ўлюбёныя самі ў сябе, што даўно ня бачаць, што адбываецца на вуліцы і далей за студэнцкія інтэрнаты не выходзяць. Я ў адчаі гэта кажу, бо пачуць тое самае праз 20 гадоў - гэта адчуваньне поўнай паразы."

«У XXI стагодзьдзі фармаваць нацыю - задача вельмі складаная і рамантычная, але вучыцеся чамусьці на ўроках.»

Сьвятлана Алексіевіч абвінавачвае нацыянальную апазыцыю ў тым, у чым перадусім грэшная самая і грэшны рэжым: рамантычнасьці й агрэсіўнасьці.

Пачнем з рамантычнасьці. Сп-ня Алексіевіч верыць, што пытаньні палітычнага ўладкаваньня мусяць ісьці наперадзе любых культуратворчых ці нацыятворчых пытаньняў. Праблема такога мысьленьня палягае ў неўсьведамленьні таго, што рэальны народ ня хоча змагацца за дэмакратыю, аўтакратыю ці любую іншую форму праўленьня. Для Лукашэнкі – гэта не бяда, наадварот, выгода, бо яму не патрэбны рэальны народны ўдзел у палітычным працэсе. Дэмакратычнае ўладкаваньне як раз патрабуе сьвядомага ўдзелу народу і ягонага жаданьня свабоды. Беларускі-ж народ у бальшыні не мае палітычнай волі й ня хоча палітычнае адказнасьці. Ці не таму, пра-расейскі настроеныя дэмакраты, хоць і літаральна гавораць моваю бальшыні, дагэтуль не перамаглі на выбарах, ня здолелі вывесьці людзей на вуліцы, нават не далі рады распаўсюду ідэй дэмакратыі, маючы лепш фундаваны, чым нацыянальны, свой незалежны друк, партыі, Хартыі, кандыдатаў, як Ганчарык, і інтэлектуалаў, як Алексіевіч.

Калі-б рамантычная мара Алексіевіч пра «дэмакратычную дзяржаву спачатку, а потым нацыянальную дзяржаву» магла спрацаваць, дык чаму-ж дагэтуль не спрацавала? Куды падзелася палітычная воля да свабоды і так званы антыкамунізм масаў расейска-сьвядомых беларусаў? Сп-ня Алексіевіч бачыць прычыну паразы ейнай мары ў дзейнасьці нацыянальнай апазыцыі, якая займаецца моўным шаманствам, упарта самаўлюбёна памыляецца і ставіць палкі ў колы дэмакратыі. Адным словам – недастаткова русыфікавалі й акультурылі.

Паводле Алексіевіч, беларусы "у асноўным расейскай сьвядомасьці". Прынамсі часткова з гэтага памылковага тэзісу трэба і выводзіць прычыны паразы ейнага змаганьня за дэмакратыю ў Беларусі. Бо на якой-бы мове (трасянцы, літаратурная расейская ці крэсова-польскай) наш народ ні гаварыў, яго сьвядомасьць застаецца пераважна **ТУТЭЙШАЙ**. Тутэйшасьць ня тоесная трасянцы. І гэта якраз тое, што зразумелі нацыяналы спрабуючы ўзгадаваць найбольш арганічную беларусам - нацыянальную сьвядомасьць, а ня проста быццам прымусова перавучыць людзей гаварыць на нейкай мове. Бальшыня тутэйшых у Беларусі – рускагаварашчыя і расейскамоўныя людзі зь мясцовай мэнтальнасьцю.

Расейскакультурная дзяржаўная беларуская сьвядомасьць – гэта тая хімера, якую будуе Лукашэнка, толькі яго мэты ясныя – далучыцца да Расеі на прывабных для яго пэрсанальна ўмовах, а вось мэты некаторых расейскіх дэмакратаў у Беларусі або цьмяныя, або завуаляваныя. Бо з такой сьвядомасьцю (нават калі ўявіць, што яна магчымая) ў асобнай дзяржаве Беларусь няма патрэбы. І нават калі такая дзяржава нейкі час праіснуе, дамінуючая расейская сьвядомасьць немінуча пачне перасьледаваць нацыянальную беларускую сьвядомасьць, зьнішчаць яе і цягнуцца да культурнай і палітычнай мэтраполіі. І што мы ў выніку атрымаем – ах, тое, што ўжо мелі – рэспубліку, край, рэгіён, дзе ўсе мы электарат з мясцовым арнамэнтам.

Нацыянальная беларуска-культурная дзяржава Беларусь, якая ўключала-б у сябе мясцовы расейска-культурны кантэкст – цалкам магчымы сцэнар пры наяўнасьці такой моцнай культурнай мэтраполіі, як Расея. Нацыянальная расейска-культурная дзяржава Беларусь і пасьпяховае разьвіцьцё ў ёй беларуска-культурнага элементу – сцэнар немагчымы. Немагчымасьць гэтага даказаная стагодзьдзямі і нашай, і суседзкай гісторыі. Або прыхільнікі расейска-культурнай дэмакратыі гэтага шчыра не разумеюць, або ня дбаюць, або сьвядома ігнаруюць.

Цяпер пра агрэсіўнасьць. Менавіта за агрэсіўнасьць я ўважаю непавагу спн. Алексіевіч да перакананьняў і адчуваньня нацыянальнае тоеснасьці людзей, што складаюць нацыянальную апазыцыю і не абавязкова апазыцыю. Абвінавачваць іх у неразумеьні нейкіх "вышэйшых" мэтаў ды вымагаць падпарадкаваньня ім і ёсьць агрэсія. Апошняя паваенная хваля гэтай агрэсіі, прынесеная ваеннаакупацыйнай абруселай і расейскай элітай, "культуртрэгерамі", дагэтуль прад'яўляе правы на адзінаправільнае філязофскае і палітычнае вызначэньне беларускага лёсу. Хоць некаторыя прадстаўнікі гэтай эліты пачалі разумець, што яны толькі частка, і не асноўная, агульнабеларускага кантэксту.

Дэмакратычнай дзяржавы з тутэйшай сьвядомасьцю не пабудуеш. А нацыянальнай беларускай дзяржавы на расейскай сьвядомасьці ня збудуеш таксама, бо няма ў такой дзяржаве арганічнае патрэбы. Пабудова дэмакратыі наўпрост залежыць ад таго, як хутка мы здолеем узгадаваць у сабе нацыянальную сьвядомасьць, еднасьць, годнасьць і разуменьне сваіх інтарэсаў. І гэты нацыянальны праект зусім не выключае наяўнасьці ў ім расейскай мовы.

Праз падобны працэс прайшлі ўсе бяз вынятку суседзі Беларусі, ад Латвіі да Украіны. Гэта тое, што зрабіла Фінляндыя, Нарвэгія, Ізраіль, гэта тое, што робяць Харватыя, Македонія, Індыя. Было-б цікава пабачыць хоць адзін прыклад пасьпяховай пабудовы дэмакратыі без нацыянальнай сьвядомасьці па сцэнары Сьвятланы Алексіевіч. Яе прыклад афрыканскіх краін ды іх спробы пабудаваць дэмакратыю без нацыянальна-дзяржаўнай сьвядомасьці вядуць да бясконцай крыві і міжусобных войнаў.

Што да аргумэнтаў кшталту «няма розьніцы якая мова, якая культура, галоўнае – дэмакратыя, усё астатняе, як мова, – яе складнікі», дык гэта і ёсьць Вялікая Ўтопія. Проста дэмакратыі **НЯМА**. Гісторыя пакуль не падаравала нам аніводнага прэцэдэнту існаваньня дэмакратыі ў ненацыянальнай дзяржаве. Нямеччына, Японія, Расея - ані ў воднай з гэтых ці якіх іншых дзяржаў будаваньне дэмакратычнай дзяржаўнасьці не ішло наперадзе будаваньня нацыянальнай дзяржаўнасьці. Нават у найстарэйшай заходняй дэмакратыі, ЗША, спачатку была Дэклярацыя пра незалежнасьць і змаганьне з Торыс, прыхільнікамі каляніяльнай улады, потым Канстытуцыя, а ўжо пазьней дадаткам да Канстытуцыі дэмакратычныя правы й свабоды.

Калі гаварыць пра рэаліі, а не мары, нацыянальная дзяржава і сьвядомасьць – гэта рэаліі праз якія прайшлі ўсе, хто будуе ці хоча будаваць пасьпяховую дэмакратыю. Нацыянальная-дзяржаўная сьвядомасьць усіх дэмакратычных дзяржаў нашмат старэйшая за дэмакратыю і ўжо ніяк ня ёсьць яе складнікам. Так што або працягвайма марыць пра проста дэмакратыю, або будзем запрагацца ў доўгі і нялёгкі працэс нацыятворчасьці, калі сапраўды хочам ад людзей дэмакратычнага выбару. А 21-е стагодзьдзе гэтак-жа добрае для фармаваньня нацыі, як і 20-е, нават і лепшае, бо дае магчымасьць бачыць посьпехі й памылкі іншых.

***Алеся СЁМУХА***

**Даведка:** Сьвятлана АЛЕКСІЕВІЧ, расейская пісьменніца, аўтарка кніг у жанры дакумэнтальнай прозы, перакладзеных у болей як 20 краінах сьвету. Нарадзілася ва Ўкраіне ў сям'і савецкага вайскоўца. Бацька – расеец, маці украінка. Пасьля пераводу бацькі на службу ў Беларусь сям'я пераехала ў Беларусь. Пераважна жыла, вучылася і працавала ў Беларусі. Зараз жыве ў Італіі.

# Беларусаведа

## *Беларуская дыяспара на Далёкім Усходзе і Ціхаакіянскім азіяцка-амэрыканскім рэгіёне.*

Сярод тысячаў штодзённых кніжных паступленьняў у Нью Ёркскую Публічную Бібліятэку маю ўвагу прыцягнула кніга, загалоўленая "Российская эмиграция в Азиатско-Тихоокеанском регионе и Южной Америке: био-библиографический словарь" (Владивосток: Дальневосточный Университет, 2001. 358 с.). Увагу прыцягнулі ўспамінаныя там прозьвішчы такіх ксяндзоў-беларусаў, як Андрэй Цікота, Язэп Германовіч ды ягоная кніга "Кітай-Сібір-Масква" (1962 г.). Знаёмства з кнігаю зацягнулася, але цяпер, хоць і з спазьненьнем, хочацца зьвярнуць на яе ўвагу беларускага дасьледніка ды выказаць пры гэтым колькі меркаваньняў.

Першая частка публікацыі досыць кароткая і складаецца зь двух разьдзелаў: аўтарскі ўступ А. Хісамудзінава й прадмова Патрыцыі Паланскай, бібліёграфа Гавайскага Ўнівэрсытэту ў Ганалюлю, дарэчы, добрай знаёмай аўтара гэтае зацемкі. У гэтай частцы коратка апісаныя магчымыя месцазнаходжаньні "расейскіх" (тут "расейскае" ўжываецца ў шырокім – дзяржаўным значэньні) архіваў і кнігазбораў да тэмы, акрэсьленай загалоўкам кнігі. На мой пагляд, дасьледніку беларускае дыяспары варта было-б наведаць Дзяржаўны Архіў Гаваяў, пра які я пісаў даўнавата (гл. "Беларус", № 210, 211, 1974 г.), а таксама Расейскі Дзяржаўны Гістарычны Архіў Далёкага Ўсходу, Дзяржаўны Архіў Хабараўскага Краю ды архівы ў Каліфорніі – Стэнфардзкі ды Каліфарнійскага Ўнівэрсытэту. Зрэшты, іх у кнізе пералічана значна болей. Аўтары зазначаюць, што нямала біяграфічнага матар'ялу знаходзіцца ў розных архівах, датычных КВЖД (Кітайска-Ўсходняя Чыгунка). Гэта пацьвярджае некалі сказанае мне айцом Германовічам: "У тых архівах знойдзем прозьвішчы, сямейныя дадзеныя ўсіх беларусаў, што працавалі на КВЖД".

Другая частка кнігі па-над 300 старонак – біяграфічна-бібліяграфічны альфабэтны слоўнік. Пералічана некалькі сотняў асобаў, якія нешта зрабілі на Далёкім Усходзе, а пазьней эміґравалі ў Аўстралію, ЗША, Паўднёвую Амэрыку.

Наступныя асобы пададзеныя як родам зь Беларусі: ксёндз Фабіян Абрантовіч, Іосіф (Язэп) Аўдашкоў, Леў Адамовіч, Антон Бардзілоўскі, Барыс Ваксмут, Давід Віленскі, Сяргей Вайцяхоўскі, Язэп Вансовіч, ксёндз Язэп Германовіч, Мікалай Жэбрак, Павел Зайцаў, Раман Кабалкін, Аляксандар Крапаўніцкі, Сяргей Лузгін, Сяргей Аганэзаў, Антон Асендоўскі, Давід Рабіновіч, Мікалай Судзілоўскі (др. Руссэль), Канстанцін Русэт, Рыгор Сатоўскі-Ржэўскі (Сатоўскіх-Ржэўскіх на Далёкім Усходзе была цэлая сям'я), Майсей Скідэльскі, Іван Саланевіч, ксёндз С. Тышкевіч, ксёндз Андрэй Цікота, Лазар Шапіра. Паводле прозьвішчаў можна меркаваць, што зь Беларусі паходзіць значна большая колькасьць, але ўдакладніць гэта пакінем наступным беларускім дасьледнікам.

Якія думкі напрошваюцца пасьля азнаямленьня з гэтаю часткаю кнігі? Бясспрэчна, беларусаў-эміґрантаў у акрэсьленым рэгіёне было вельмі шмат. Спадчына некаторых з іх мусіць быць перагледжаная, асабліва журналістаў, бо яны маглі пісаць пра Беларусь.

З названых у кнізе асобаў у беларускіх дасьледаваньнях ведамы толькі др. Мікалай Руссэль-Судзілоўскі ("Запісы БІНІМ", № 16, 1978 ды інш.). У часапісе "Божым Шляхам" друкаваліся матар'ялы пра ксяндзоў-беларусаў, высланых у Харбін, а таксама згадкі пра тых ксяндзоў у працах а. А.Надсана. Неабходна таксама прыгадаць, што беларуская матар'ялы-пагляды выказваліся неадноўчы ў друку былымі выхаванцамі ксяндзоў, што мелі непасрэднае дачыненьне да беларускай дыяспары.

Пры чытаньні другой часткі кнігі прыгадваюцца таксама й такія дадатковыя факты: др. Аляксандар Сянькевіч, буйны дзеяч БССР у гадох 20-х, вяртаючыся з Амэрыкі ў Беларусь праз Каліфорнію, ладны час партызаніў у Ціхаакіянскім рэгіёне ў атрадах Сяргея Лазо. У 1922 годзе ў горадзе Ўладзівастоку была выдадзеная брашура "Повстанчество в Белоруссии" (12 старонак), а на Алясцы ў горадзе Джуно ў сярэдзіне 1970-х гадоў, калі мы зь сям'ёю падарожнічалі ды зьбіралі матар'ялы для бібліяграфіі беларускага друку на эміграцыі, у праваслаўным манастыры напаткалі асобнікі часапісаў "Голас Царквы" і "Царкоўны Сьветач".

Мовы няма: беларуская дыяспара ў Далёка-Усходнім Ціхаакіянскім рэгіёне – справа рэальная і патрабуе пільнай увагі й адмысловага дасьледаваньня. Зь гледзішча новых досьледаў выхад з друку пару месяцаў таму даўно насьпелае й патрэбнае манаграфіі Н. Гардзіенкі пра беларусаў у Аўстраліі дазваляе прыпушчаць, што вывучэньне беларускага замежжа ў тым рэгіёне не за гарамі!

Анатаванай-жа кнізе месца ў кожным беларускім кнігазборы дасьледчага профілю.

***Вітаўт КІПЕЛЬ***

# Беларусь за месяц

## Паўторны зьезд палякаў

Пры канцы жніўня ў Ваўкавыску прайшоў паўторны VI Зьезд Саюзу палякаў у Беларусі. Вынікі сакавіцкага зьезду, дзе быў зьняты з пасады старшыні Тадэвуш Кручкоўскі ды абраная Анжаліка Борыс, Міністэрства юстыцыі прызнала нелегітымным, угледзеўшы парушэньні ў правядзеньні форуму. Таму было "рэкамэндавана" перапраўесьці зьезд.

Прыхільнікі А. Борыс не пагадзіліся, і пачалося процістаяньне з дзяржавай, якое пры канцы ліпеня скончылася штурмам сядзібы Саюзу палякаў АМАПаўцамі й адміністрацыйнымі пакараньнямі прыхільнікаў незалежніцкай плыні.

Паплечнікі Т. Кручкоўскага пастанавілі перапраўесьці зьезд у Ваўкавыску, які і прайшоў 27 жніўня. У ім узялі ўдзел 174 дэлегаты. Як зазначаюць польскія СМІ, дэлегатаў на гэты зьезд прывезьлі на сход чатырма аўтобусамі пад аховай міліцыі, забаранілі кантактаваць з журналістамі. Многія "абраньнікі" размаўлялі між сабой па-расейску, а падчас урачыстай імшы ў ваўкавыскім касьцёле адбівалі праваслаўныя паклоны.

Кіраўніком Саюзу палякаў быў абраны 68-гадовы Юзаф Лучнік, былы дырэктар школы ў Гарадзенскім раёне. За яго прагаласавала 149 дэлегатаў, супраць — 3. Юзаф Лучнік быў піянэрам польскага адраджэньня краіны ў канцы 1980-х, ён стварыў адзін зь першых аддзелаў Саюзу палякаў, а потым заснаваў яшчэ некалькі суполак.

Пасьля галасаваньня новае кіраўніцтва СПБ заявіла пра прынцыпы кіраваньня арганізацыяй: не палітыка, а культурнаасьветніцкая дзейнасьць. Новае кіраўніцтва юрыдычна незалежнага СПБ спадзяецца на дзяржаўныя датацыі, а не на падтрымку варшаўскіх фондаў.

Тым часам польскія ўлады заявілі, што не прызнаюць абранага ў Ваўкавыску кіраўніцтва СПБ. Так, намесьнік міністра замежных спраў краін Ян Трушчынскі зазначыў, што выбары прайшлі з парушэньнем правіл дэмакратыі і моцным умяшальніцтвам уладаў. "Мяркуем, гэты зьезд быў абсалютова недэмакратычным, а абранае ў такі спосаб кіраўніцтва разглядаем як людзей, што не рэпрэзэнтуюць палякаў у Беларусі", — заявіў сп. Трушчынскі. Польшча будзе дапамагаць прыхільнікам Анжалікі Борыс.

Саюз палякаў Беларусі — трэцяя па колькасьці грамадзкая арганізацыя ў Беларусі, пасьля пралукашэнкаўскіх Фэдэрацыі прафсаюзаў і рэспубліканскага саюзу моладзі. СПБ аб'ядноўвае каля 30 тыс. чалавек, і дзяржаве важны кантроль над ім перад прэзыдэнцкімі выбарамі.

## Перасьлед прыхільнікаў Борыс

Паплечнікі Анжалікі Борыс журналісты Анджэй Пісальнік, Андрэй Пачобут, а таксама ейныя намесьнікі Юзаф Пажэцкі і Веслаў Кеўляк названыя падазраванымі па крымінальнай справе, распачатай Шчучынскай раённай пракуратурай. Заяву падаў дырэктар Дому польскага ў Шчучыне Віктар Богдан. Спадар Богдан сьцьвярджае, што вышэйпералічаныя людзі пагражалі яму расправай, калі ён не аддасьць ім ключы ад Дому польскага. Турэмныя тэрміны за такое "хуліганства" — некалькі года пазбаўленьня альбо абмежаваньня волі.

Таксама заведзеная крымінальная справа па факце падпалу ў ноч з 6 на 7 студзеня машыны Тадэвуша Кручкоўскага, у чым могуць падазраваць ягоных апанэнтаў, прыхільнікаў Анжаліку Борыс. Спн. Борыс з гэтай прычыны некалькі разоў дапытвалі ў міліцыі.

## Нацiск на газэты

Менгарвыканкам ліквідаваў таварыства "Деньпресс", што зьяўлялася выдаўцом недзяржаўнай газэты "День". Прычына — неажыцьцяўленьне ТАА прадпрымальніцкай дзейнасьці цягам шасьці месяцаў запар. Праўда, дэмакратычная грамадзкасьць ня надта адчула закрыцьцё газэты, якая прадавалася прыватнымі распаўсюднікамі й мела мізэрны ўплыў.

Куды больш адчувальным для грамадзкасьці магло стаць закрыцьцё "Белорусской деловой газеты" — аднаго зь лідэраў незалежнай прэсы ў краіне. Як вядома, пры канцы траўня 2005 году дзяржава прыватызавала выкарыстаньне прыметнікаў "беларускі" і "нацыянальны" ў назвах газэт, і недзяржаўныя выданьні мусілі прайсьці перарэгістрацыю. І толькі ў апошні момант БДГ прайшло перарэгістрацыю, выданьне будзе называцца "БДГ. Деловая газета". Інтэрнэт-адрас застаўся ранейшым — www.bdg.by.

"Белорусский рынок" будзе называцца "Белорусы и рынок", "Белорусская газета» — "Белгазета", "Национальная экономическая газета" — "Экономическая газета".

## Выбары ў ліпені

Старшынька Цэнтарвыбаркаму Лідзія Ярмошына заявіла, што прэзыдэнцкія выбары пройдуць не пазьней за 20 ліпеня 2006 году. Улічваючы тое, што выбары ў нас традыцыйна праводзяцца ў нядзелю, хучэй за ўсё гэта будзе 16 ліпеня. Час, калі апазыцыйна настроеныя студэнты разьедуцца з ВНУ па хатах.

Прызначаны таксама дзень правядзеньня Кангрэсу дэмакратычных сілаў, які мусіць вызначыць адзінага кандыдата ад дэмсіл на прэзыдэнцкія выбары — 1 кастрычніка. Праўда, яшчэ невядома месца правядзеньня форуму. Не знайшоўшы залі ў Беларусі (арэндадаўцы адмаўляюць у арэндзе), ініцыятыўная група нават зьвярнулася ў гэтай справе да Лукашэнкі — пасадзейнічаць.

## Скрабца абвінавачваюць

Экс-дэпутату Палаты прадстаўнікоў, лідэру парлямэнцкае групы "Рэспубліка" Сяргею Скрабцу прад'явілі яшчэ адно абвінавачаньне. Яго вінавацяць у выманьваньні крэдытаў, калі ён працаваў дырэктарам чакаляднага канцэрну "Белбабаеўскі". Справа была заведзеная ў 2000 годзе, але пасьля таго як Скрабец зрабіўся дэпутатам, справа была прыкрытая. Крыху раней Скрабцу інкрымінавалі падбухторваньне да даваньня хабару.

## Дэпартавалі Луку

27 жніўня беларускія ўлады падманулі народ. Яны абвясьцілі пра дэпартацыю з краіны прадстаўнікоў грузінскай маладзёвай арганізацыі "Кмара" Гіі Кандэлакі і Лукі Цуладзэ. Маўляў, іх у менскім аэрапорце пасадзілі на самалёт у Тбілісі. Аднак да сталіцы Грузіі яны не даляцелі. Беларускія і грузінскія СМІ пачалі біць трывогу. Аказалася, што маладых людзей пакінулі ў спэцпрыёмніку-размеркавальніку, дзе іх пратрымалі трое сутак, падоўжыўшы тэрмін утрыманьня да 15 сутак. І толькі праз тыдзень "кмараўцы" былі высланыя зь Беларусі.

Маладыя людзі былі затрыманыя разам з каардынатарам арганізацыі "Зубр" Уладзімерам Кобецам у раёне сталічнага парку Горкага 24 жніўня. Паводле першапачатковай вэрсіі, яны былі затрыманы праз афармленьне дакумэнтаў неналежным чынам. Кобца адпусьцілі, а грузінаў павезьлі ў спэцпрыёмнік на Акрэсьціна. Іх абвінавацілі ў тым, што падчас знаходжаньня ў Менску яны "ўступілі ў кантакт з прадстаўнікамі радыкальных палітызаваных структураў і правялі шэраг сэмінараў па арганізацыі акцый грамадзянскага непадпарадкаваньня па аналёгіі з "каляровай рэвалюцыяй" у Грузіі".

Арганізацыя "Кмара" была адным з рухавікоў "рэвалюцыі ружаў" у лістападзе 2003 году, што прывяла да падзеньня рэжыму Эдуарда Шэварнадзэ.

## Новыя станцыі мэтро

На 11 верасьня ў Менску было заплянаванае адкрыцьцё трох новых станцый сталічнага мэтро, "Спартовай", "Кунцаўшчына", "Каменная горка" на захадзе сталіцы. Такім чынам цяпер менская падземка налічвае 23 станцыі.

Як вядома, станцыя "Спартовая" напачатку мелася называцца "Ракаўская", аднак па просьбах грамадзкасьці ёй была дадзена "сучасная" назва "Спартовая". Нібыта першапачатковая назва нагадвала пра хваробу, а не мястэчка Ракаў.

## Севярынец на Поўначы

Лідэр моладзевай апазыцыі Павал Севярынец будзе адбываць хімію ў вёсцы Малое Сітна на Полаччыне (самая поўнач Беларусі). Працаваць ён будзе за некалькі кілямэтраў ад вёскі на чыгуначнай станцыі Алешча на лесанарыхтоўках.

## Як зарабляюць у Менску

Паводле Міністэрства статыстыкі й аналізу сярэдні заробак у сталіцы, без уліку падаткаў, склаў 611 тыс. рублёў, ці $284. У рэальным сэктары эканомікі найвышэйшыя заробкі на прадпрыемствах цэлюлозна-папяровай прамысловасьці ($376), каляровай мэталюргіі ($347), будаўнікі ў сярэднім зарабляюць $340, настаўнікі — $228. Перад прэзыдэнцкімі выбарамі, урад абяцае сярэдні заробак $300, у бюджэтнай сфэры — $250.

## Усе — у Таронта

23—25 верасьня ў Таронта (Канада) у Rexall Centre пройдзе матч плэй-оф за права выхаду ў Асноўную групу тэнісьнага Кубку Дэвіса. Зборная Беларусі (Макс Мірны, Уладзімер Ваўчкоў) згуляюць з супернікамі з Канады. Летась беларусы дабраліся да паўфіналу Кубку Дэвісу, дзе саступілі зборнай ЗША.

23 верасьня гульні пачнуцца а 11-й гадзіне па таронцкім часе, 24 верасьня — а 14-й, у нядзелю, 25 верасьня, — а 11-й.

*Уласны карэспандэнт*

## Лёгкая атлетыка

На спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы ў Фінляндыі 8-14 жніўня ўдала выступіла зборная Беларусі, якая здабыла 5 медалёў і заняла 5-е месца. Залатыя медалі здабылі: І. Ціхан у кіданьні молата і Н. Астапчук у піханьні ядра. Срэбраныя медалі здабылі: В. Дзевяткоўскі ў кіданьні молата і М. Турава ў спартовай хадзьбе на 20 км. А бронзавы мэдаль заваявала каманда ў эстафэце 4Х100м.

Дзеля параўнаньня ніжэй прыводзім выніковую табліцу чэмпіянату, дзе пададзеныя пяцёрка найлепшых камандаў і камандаў краінаў-суседзяў Беларусі.

| | Зал. | Срэб. | Брон. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. ЗША | 14 | 8 | 3 | 25 |
| 2. Расея | 7 | 8 | 5 | 20 |
| 3. Этыёпія | 3 | 4 | 2 | 9 |
| 4. Куба | 2 | 4 | 0 | 6 |
| 5. Беларусь | 2 | 2 | 1 | 5 |
| 17. Летува | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 21. Украіна | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 25. Польшча | 0 | 1 | 1 | 2 |

Маем поўнае права ганарыцца беларускімі спартоўцамі.

*М. ШВЭДЗЮК*

# Віталі ЦЯРПІЦКІ, "астроўшчык"

**Віталі Цярпіцкі пераехаў у ЗША 55 гадоў таму. Ён асеў у Саўт-Рывэры — адной з найбуйнейшых беларускіх калёніяў у ЗША. Гэты горад у штаце Нью-Джэрзі, нібы магніт, прыцягваў да сябе прыхільнікаў Беларускай Цэнтральнай Рады. Сёньня яны ўжо не вядуць публічнай палітычнай працы. Віталі Цярпіцкі — адзін з апошніх, хто застаўся ў жывых сапраўды дзейных прыхільнікаў Радаслава Астроўскага. Але сп. Цярпіцкаму ёсьць аб чым успомніць і акрамя палітыкі, якая пасварыла лепшыя беларускія розумы за мяжою.**



школы, аднак мяне нідзе не ўзялі, бо я быў сынам праваслаўнага сьвятара. Па пратэкцыі знаёмага місіянэра, айца Рагальскага, мяне прынялі ў расейскую школу. У першы год я — вяскоўы хлапчук, — ня ведаючы расейскай мовы, шмат нацярпеўся, хуліганы ня раз падбівалі вока, бо ня ўмеў біцца. Улетку я шмат працаваў на гаспадарцы, навучыўся касіць, карчаваць пні, добра вырабіў мускулы, і з пачаткам новага навучальнага году адпомсьціў "героям".

У 1936-м бацьку перавялі ў парафію Далматаўшчына за шаснаццаць кілямэтраў ад Міру. Рэчы перавозілі цераз Налібоцкую пушчу вазамі. Калёсы былі драўляныя і, каб лепей круціліся, змазвалі масьлякамі, на якія была багатая пушча.

Па сканчэньні шасьці клясаў, паспрабаваў паступіць у Навагрудзкую польскую гімназію імя Міцкевіча, але праз абмежаванасьць месцаў быў адкінуты. Пайшоў у Віленскую гімназію імя Пушкіна, да якой далучылі жаночую гімназію. Калі Вільня адышла да летувісаў, паехаў у Навагрудак, дзе ўсё-ж паступіў у гімназію. За Саветамі ў гімназіі пачалося выкладаньне расейскай мовы, і я быў адным зь нямпачатковай школы, а ў 1942-м паступіў на трэці курс настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы. Там у маім жыцьці і наступіў нацыянальны пералом: упершыню адчуў сябе сьведамым беларусам. Усе акружэньне, якое выхоўвала маладое пакаленьне ў нацыянальным духу, было беларускім. Сялянская моладзь хлынула ў Нясьвіж (дарэчы, там разам з Якубам Коласам вучыўся і мой бацька), каб здабыць магчымую на той час сярэднюю адукацыю. Калёны сяброў Саюзу Беларускай Моладзі, бадзёра маршыруючы па цэнтры гораду, магутнай песьняй ажыўлялі яго.

У пачатку чэрвеня 1944 году скончыў сэмінарыю і задумаўся: што рабіць далей? У Менску якраз адкрылася афіцэрская школа, у якую масава запісалася сэмінарысты. У тым ліку і я. 12 чэрвеня перад Нясьвіжскай ратушай, дзе і месьцілася сэмінарыя, пад гукі аркестру, які выконваў нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", адбылося разьвітаньне зь сябрамі. На грузавіках даехалі да Гарадзеі, адтуль — да Менску цягнікамі. Але сталіца зрабіла непрыемнае ўражаньне: вакол Афіцэрскае школы было шмат зруйнаваных будынкаў. Нашыя курсанспаткаў сяброўку з расейскай гімназіі. Мяне вельмі зьдзівіла, што Мілачка добра гутарыла... па-беларуску! Праз некалькі дзён курсантаў пагрузілі ў таварныя вагоны. Ня ведаю чаму, але нас перавозілі з адной станцыі на другую. Раптоўна горад быў асьвечаны лямпамі, бомбы засыпалі ўсю чыгунку, паўсюды — крыкі й стогны параненых сяброў... Я кінуўся на ўцекі і дабег ажно да Парубанка — лётнішча за пяць кілямэтраў ад гораду. Уся Вільня была ў вагні. Назад вярнуўся пад вечар: забітых і раненых ужо прыбралі.

Выехалі на Коўна, пхалі вагоны пад горку. Ад'ехаўшы колькі кілямэтраў ад Вільні, назіралі другі налёт на горад. Урэшце, высадзіліся непадалёк Варшавы. Спаткалі варшаўскіх паўстанцаў, якіх вывозілі ў Нямеччыну. У пачатку жніўня ўсе беларускія вайсковыя адзінкі затрымаліся ў Прусіі ля Кёнігсбэргу. Прайшла чутка, што школу перакінуць на Балканы. Нам гэта спрыяла, бо думалі, што адтуль будзе лягчэй уцячы – тады ўсе разумелі, што Нямеччына вайну прайграе. Аднак загад быў зьменены: на Паўдзённую Францыю! Праз зруйнаваную вайною, патанулую ў попеле Нямеччыну нас як палонных. У адной зь вёсак здабылі мы новую прафэсію: капальшчыкі магіл. Прызывы чаіліся, галоўнае, што засталіся жывымі. Праз тры месяцы, на новым месцы, нас далучылі да арміі Ўласава. Мы ведалі, што пасьля вайны будзем рэпатрыяваныя на "радзіму", таму як былыя грамадзяне Польшчы запісаліся ў Польскі корпус генэрала Андэрса.

Чатыры дні мерзьлі на амэрыканскім параплаве, які з Марсэлю вёз нас у Італію. Падчас рэгістрацыі настаяў, каб мяне запісалі беларусам. Калі называў прозьвішча, падыходзіць фэльчар: "Як тваё прозьвішча? Цярпіцкі?.. Сын сьвятара? Ты мяне не пазнаеш?" Аказалася, што гэты чалавек шчапіў мне ў дзяцінстве воспу ... Спаткаў я на вайне і іншых старых знаёмых. Быў у нашай вёсцы прафэсыйны злодзей, які краў сыры. Ад палякаў ён адкупаўся грашыма, а Саветы хутка "пасадзілі" яго на цягнік у Сібір. Ехаў я аднойчы па вайсковых справах. На кожным прыпынку пытаюцца: адкуль пан прыехаў? Калі ў чарговы раз адказаў, мне і расказваюць: "Ведаем твайго земляка, багаты чалавек!" Зарганізавалі сустрэчу — во, гэта-ж наш злодзей! Раска-

## Папоўскі сын — савецкі чэмпіён

Нарадзіўся я 3 лютага 1923 году ў мястэчку Івянец, што ў Валожынскім павеце. Краявіды Івянца амаль сьцерліся ў памяці, куды лепей памятаецца вёска Войцінава, дзе разьмяшчаліся царква й вялікі сьвятарскі дом, дзе мы жылі. У мяне былі два браты й сястра — Ігар, Лёва і Тася. Бацька Антон быў у Івянцы сьвятаром. Тату за царом выслалі ў Сібір, там ён працаваў лекарам. Мама Зінаіда, з роду Трацьцякоў, казала, што ейная сям'я мела далёкія сваяцкія сувязі зь сямействам Трацьцяковых, заснавальнікамі славутай галярэі ў Маскве.

У 1928-м годзе бацьку перавялі ў парафію Доры. Сьвятарская сядзіба была ля самай царквы на ўзгорку, унізе — багатая на рыбу і на ракаў рэчка. Па другі бок ракі — фальварак Кушалеў. У частцы хаты малодшага сына Вінцэнта Кушаля — Казімера, які, узяўшы шлюб, аддзяліўся ад бацькоў, месьцілася 3-х клясная школа. Неяк улетку ў Доры прыехаў другі сын Кушаля Франц з жонкаю і шмат гасьцей. Сяляне казалі, што сын — кадравы афіцэр у польскім войску. Памятаю, як апранутыя ў прыгожыя сукенкі сялянкі забаўляліся, разьбіваючы пракосы сена. Ніхто ў вёсцы ня ведаў, што жонка афіцэра – беларуская паэтка, Натальля Арсеньнева.

Ва ўзросьце адзінаццаці гадоў, па заканчэньні чацьвертай клясы, бацькі адправілі мяне ў Вільню, дзе ў духоўнай сэмінарыі вучыўся старэйшы брат Лёва. У Вільні з мамаю мы абышлі ўсе ногіх, хто яе ведаў. Часта прамаўляў на палітычных зьездах, быў чэмпіёнам па лыжных гонках на 20-30 кілямэтраў і перамагаў моцных савецкіх "байцоў". Удзельнічаў нават у спаборніцтвах у Жданавічах.

## "Сьведамы беларус"

Аднойчы выглядваю ў вакно: савецкіх танкаў — не пералічыць! Жыхары вёскі Доры, што рабілі цудоўныя сыры, кінуліся да жаўнераў: частуйцеся! Тыя толькі адмахваліся, думалі, што нейкую бомбу суюць — аніводнага разу ў жыцьці сыру ня бачылі.

Карціна адступленьня савецкіх войскаў на ўсход была жудаснай: хто на чым, хто як мог уцякаў, без агляду пакідалі заходнія межы СССР. Кідалі па дарозе машыны, зброю, а пад Бугам-жа стаяла трохмільённае войска!

Немцы з пашанаю ставіліся да людзей, пакуль не пачаўся партызанскі гвалт — найгоршая зьява падчас вайны. Некаторыя савецкія байцы заставаліся ў мясцовых жыхароў і, чакаючы заканчэньня вайны, пачуваліся шчасьлівымі людзьмі. Іншыя на прапановы застацца адказвалі: "Мы идем освобождать матушку-Россию от жидов и коммунистов"... Калі пачалася партызанка, таго, хто застаўся, пазганялі ў лясы — і пачалася бяда. Памылка немцаў заключалася ў тым, што яны пайшлі па сьлядох "чырвоных", зьдзекуючыся зь беларусаў, якія пры іншай палітыцы маглі знайсьці ў немцах саюзьнікаў.

Я спачатку працаваў настаўнікам першай-трэцяй клясы



*2-гі Польскі корпус, Італія: Міхась Наумовіч, Язэп Арцюх, Віталь Цярпіцкі.*

ты ў часе правядзеньня Другога Ўсебеларускага Кангрэсу ахоўвалі будынак гарадзкога тэатру.

Ящчэ да ад'езду ў Менск прыехаў да бацькоў, каб, магчыма, у апошні раз іх убачыць. Мама, толькі мяне прымеціла, падбегла і кажа: "Сынок, хавайся хутчэй! Прыходзіў па цябе Цыбульскі..." Гэта быў мой стары сябра зь Вільні, я вучыў яго знаёміцца зь дзяўчатамі. Цыбульскі шанаваў мяне і прыйшоў з партызанскім атрадам 35 кілямэтраў, каб і мяне далучыць да партызанаў. Раз прыйшоў — мяне няма, другі — зноў няма. Сказаў, калі ня будзе ў трэці, бацькі будуць зьбітыя.

## Франтавыя лініі лесу

Раніцою 28 чэрвеня 1944-га прыйшоў загад пакінуць Менск. Напрамак — Вільня. Дабіраліся, хто як мог. Праз тры дні сустрэліся на адной з ускраінаў роднага для мяне, яшчэ не кранутага вайною гораду. Зьведаў знаёмыя месцы, у раёне Новы Сьвет даехалі да Бэзансону. Два дні ішлі пехатою каля швэйцарскай мяжы. І тут новы загад: назад... у Нямеччыну.

Тут і пачалося масавае бадзяньніцтва плянаў, дзе і калі перайсьці да францускіх партызанаў. Гэтыя падзеі шырока апісаў сябра афіцэрскай школы Кастусь Акула у сваіх "Змагарных дарогах". На трэці дзень апоўначы адважныя сябры пайшлі ў "наступ" супраць францускіх партызанаў. Трусьлівыя засталіся. Жахлівы гэта быў учынак з нашага боку. Спачатку ня мелі аніякага кантакту з французамі, але трэба было ратаваць жыцьцё. Хаваліся па лясох, вёсках. Голад, вошы. Урэшце ў вёску, у якой мы сядзелі ў вадзе пад трасьнікам, хаваючыся ад немцаў, прыйшлі амэрыканцы. Зь якой радасьцю мы сустрэлі жаўнераў ЗША! Нас накармілі, галава абалдзела ад францускай сьлівавіцы. Але радасьць была кароткай: французы "прадалі" заў, што праз гандлёвыя махлярствы, прадаючы ці соль, ці віно, зарабіў столькі грошай, колькі іншым і ня сьнілася. Я расказаў, што жывая ягоная жонка. З дапамогай Чырвонага крыжу ён даслаў ліст. Тое-ж зрабіў і я: бацькі даведаліся, які лёс напаткаў сына. Дарэчы, яшчэ пры Саветах мама і Тася наведалі мяне ў Амэрыцы. Маме тады было ўжо 80 гадоў...

## Нанова народжаны

Пасьля рэгістрацыі я быў прыпісаны да школы падхарунжых. Прайшоў допыт "двойкі", вельмі добра выказаўся аб палякаў, бо насамрэч быў ім удзячны за тое, што выратавалі жыцьцё мне і сябрам. Праз два тыдні вучобы ў школе падхаронжых мяне звольнілі, матывуючы гэта тым, што быццам бракавала польскай адукацыі – гады навучаньня не пры польскім рэжыме не залічваліся. Абражаны й разьлаваны, мусіў вяртацца на фронт. Але-ж разьнюхаў навіну, што на поўдні Італіі хутка будзе адчынены матуральны курс. Падгаварыў сяброў ад'ехаць як мага далей ад фронту. Пакуль вучыліся — вайна і скончылася. Вучыўся з намі і айцец Надсон.

Потым уладкаваўся загадчыкам палявой праваслаўнай капліцы 7-й дывізіі, маючы асобнае памешканьне. У чэрвені 1946-га году наш корпус перавялі ў Англію. Пазнаеміўся там з багатай бязьдзетнай сям'ёю Джо Проктара. Яны прынялі нас зь сябрам у сваім доме, дапамаглі знайсьці працу. Так сталі мы хіба што першымі жаўнерамі, якія пачалі працаваць.

*Заканчэньне на бач. 5*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №9 (476)


## Жнівеньскі сход аддзелу БАЗА

У грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 14 жніўня па заведзенай традыцыі сабраліся беларусы Нью Ёрку і ваколіцаў на чарговы, жнівеньскі сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Ён падзяліўся думкамі наконт таго, як надалей праводзіць працу аддзелу, як пашырыць інфармацыю пра ягоную дзейнасьць, прыцягнуць новых людзей, падвысіць актыўнасьць і зацікаўленасьць сярод маладых сябраў аддзелу. У плянах таксама інфармаваньне пра рэчы, зьвязаныя са зьменаю статусу ў ЗША, і апублікаваньне сьпісу юрыстаў, якія маюць пазытыўныя вынікі ў судовых справах, што тычыліся людзей зь Беларусі, і могуць быць рэкамэндаваныя сябрам БАЗА. Сп. Зайка запрасіў усіх прысутных даваць свае прапановы й заўвагі адносна плянаў дзейнасьці аддзелу.

Затым перад слухачамі выступіў сп. Зянон Пазьняк, Старшыня Беларускага Народнага Фронту. Ён сказаў, што цяпер ужо перад нашымі вачыма адбываюцца рэчы, якія істотна паўплываюць на выніку выбараў восеньню 2006 году. Сярод іх такія небясьпечныя моманты, як ізаляцыя Польшчы ад Беларусі ў выніку канфліктнай сытуацыі вакол Саюзу палякаў Беларусі, падступна сканструяванай рэжымам Лукашэнкі. Польскія ўлады й мэдыі паввяліся на гэтую правакацыю. Умяшаньне ў канфлікт МЗС Расеі ды наступныя падзеі паказалі посьпех расейскай палітыкі й паразу палітыкі польскай. Вынік — Польшча можа быць цалкам адсечаная ад Беларусі. Яе (і значыць Эўразьвязу) магчымасьці па дапамозе антылукашэнкаўскім сілам, уплыў на падзеі ў Беларусі ў 2006 годзе могуць быць моцна абмежаваныя. Пачасьціліся скандальныя выступы расейскіх палітыкаў (Барадзін, Аяцкаў) супраць беларускай незалежнасьці. Яны фактычна выказваюць пазыцыю, якая, хоць і не пацьвярджаецца расейскімі афіцыйнымі ўладамі, але агучвае думку Крамля і Лубянкі.

У гэтай сувязі варта адзначыць блізкасьць, а часам і супадзеньне інтарэсаў расейскай і нямецкай палітыкі. І гэта ілюструюць падзеі вакол вяшчаньня на Беларусь радыёстанцыі "Нямецкая Хваля". Рашэньне аб выбары расейскай мовы для вяшчаньня на Беларусь прыводзіць да пэўных высноваў. У Беларусі, дзе рэжым Лукашэнкі праводзіць этнацыд беларускага народу, мова стала палітычным чыньнікам. Хто за беларускую мову — той за дэмакратыю, за незалежнасьць. Падыміце тыя мільёны беларусаў, што ляжаць ў зямлі з ласкі НКВД, спытайце пра мову!. Пытаць энкавэдыстаў ды іхных нашчадкаў, тых-што панаехалі па вайне — гэта не апэляцыя. Наагул для арганізацыі кшталту Эўразьвязу гэта проста несалідна. Грошы — мізэрныя, час — мізэрны, кіраўнічка праекту Карнэлія Рабіц у беларускіх справах нічога не разумее. Браць матар'ялы з расейскай службы "Нямецкай Хвалі", пускаць іх у асобна вызначаныя 15 хвілін, і называць гэта "альтэрнатыўнай крыніцай інфармаваньня" для насельніцтва Беларусі проста сьмешна і недастойна гонару Эўразьвязу. Далей могуць пайсьці падтасаваныя апытаньні, дзе "высьветліцца", што "Нямецкую Хвалю" быццам слухае значна больш беларусаў, чым беларускую службу "Радыё Свабода", і высновы будуць ясныя. Таму сёньня мы мусім пратэставаць супраць гэтага прыніжэньня, супраць ганебнай абыякавасьці да сутнасьці падзеяў у Беларуасі. Трэба рэагаваць, рэагаваць рэзка, пісаць ва ўсе належныя месцы, дабівацца сустрэчаў з чынавенствам Эўразьвязу, заяўляць аб недапушчальнасьці пагарды да беларусаў, да іх мовы. Для нас, для нашай нацыі мова — стрыжнявая каштоўнасьць. Пакуль яна ёсьць — ёсьць дзяржава, ёсьць незалежнасьць, ёсьць народ. Мова — найвялікшае культурнае дасягненьне і найвялікшы скарб кожнай нацыі. У мове зафіксаваны нацыянальны характар, мэнтальнасьць, мараль народу. Ніхта ня мае права распараджацца моваю, уціскаць яе праз фальшаваныя рэфэрэндумы, душыць яе праз закрыцьцё школаў, праз выцісканьне з мэдыяў, проста праз перасьлед за ўжываньне яе. Гэта злачынства, і за яго рэжым Лукашэнкі панясе адказнасьць. Але ці ня ёсьць пагарда да беларускай мовы збоку пэўных структураў у Эўропе кшталтам дапамогі рэжыму Лукашэнкі, кшталтам саўдзелу у ягоных злачынствах? Таму цяпер — слова за беларусамі, слова — за намі.

Сярод прысутных былі распаўсюджаныя прыкладныя тэксты лістоў і адрасы для адсыланьня кіраўніцтву "Нямецкай Хвалі".

У разьдзеле "Рознае" былі зробленыя аб'явы, паведамленьні, заўвагі, прагучалі адказы на пытаньні. Затым прысутныя мелі нагоду ў таварыскай атмасфэры калегавацца зь землякамі.

**В. ЗАЙКА**

*Заканчэньне з бач. 5*

Пачаўся новы этап жыцьця: зарабляючы собскія грошы, пачуваўся чалавекам, жыў у шыкоўных умовах. Пасьля пераехаў у Брадфард, каб заступіць на працу ў буйную тэкстыльную фабрыку. Там пазнаёміўся зь беларускімі патрыётамі, разам зь якімі падтрымліваў беларускасьць у Ангельшчыне. У эміграцкай праваслаўнай царкве сустрэўся з прыгожай дзяўчынай Жэняй Ермалінскай, зь якой 14 кастрычніка 1950 году ўзяў шлюб. Пераехаў жыць да Жэніных бацькоў, якія набылі добры дом у блёку. Грошы быццам зь неба сыпаліся, аднак у Англіі мы былі пазбаўленыя ўсялякіх пэрспэктываў.

Наш добры знаемы, айцец Мікалай Краўчанка, выслаў запрашэньне ў ЗША, і ўжо 21 лістапада 1950 году на параплаве мы прыбылі ў Нью-Йорк. Адразу паехалі ў Саўт-Рывэр, дзе існавала беларуская калёнія. Уключыліся ў беларускае жыцьцё, ад якога я не адышоў і па сёньня.

Набыў, урэшце, цікавую, нестандартную дасьледчую работу у хімічным аддзеле буйной кампаніі. Адпрацаваў там ажно 25 гадоў! У 1954-м нарадзілася дачка Леаніла, а 1956-м купілі хату, шмат падарожнічалі па сьвеце — вельмі добра жылі. Аднак Жэня цяжка захварэла і 11 лютага 1991 году памерла. Яшчэ пры яе жыцьці мы дамовіліся, што ў выпадку сьмерці аднаго з нас пазасталая асоба будзе шукаць новага партнёра для нармальнага жыцьця. Аднаму пасьля стольkіх гадоў сямейнага жыцьця быць дрэнна, пачуваешся воўкам у лесе. Завітаў неяк у Пітсбург, дзе жыла аўдавелая дачка Мікалая Краўчанкі Іра Аўдзей. Зь ёй і ейным будучым мужам Аляксандрам Аўдзеем я спаткаўся ў 1945-м у Італіі. Вянчаў нас мой пляменьнік, япіскап Леў 5 верасьня 1992-га году ў Вялікім Ноўгарадзе.

### "Сорам здраднікам!"

Як кажуць — "астроўшчык"! Так, я стаў сьведамым беларусам падчас 2-й сусьветнай, а гэта эпоха цалкам зьвязаная зь імем прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага. І сорам тым, хто здрадзіў нашаму адраджэнцкаму руху! Бог ім судзьдзя.

Я ўжо стары чалавек, але куды ад гэтай палітыкі схаваешся? Адыходзяць лепшыя людзі, якіх мы хаваем на адзіных у сьвеце беларускіх могілках у Саўт-Рывэры. Але трэба цягнуць гэты воз далей. Прозьвішча абавязвае... Але пасьля пабудовы царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, Беларускага грамадзкага цэнтру можна паміраць спакойна. Афіцыйна ніякіх становішчаў у БЦР я не займаў. Адразу сказаў, што не зьбіраюся гуляць у салдацікі, як БНРаўцы. З адыходам Астроўскага эпоха БЦР скончылася. Я і Міхасю Зую (трэці прэзыдэнт БЦР, які жыў у Аўстраліі — А.А.) радзіў паставіць кропку.

Што-б не здаралася, здавацца не зьбіраюся — як і дзесяцігодзьдзі таму, беларускай справе адданы цалкам. Дзякуючы нашым намаганьням, беларускай школцы пры царкве выгадавалася першае пакаленьне маладых беларусаў, якія гавораць і пішуць па-беларуску. Некаторыя пагразьлі, як я кажу, у гэтым палескім балоце, якое аддзяляе нас, на вялікі жаль, ад украінцаў.

**Запісаў Аляксандр АДЗІНЕЦ**

## Наступны сход

Нью Ёрскага аддзелу БАЗА адбудзецца 11 верасьня 2005 году ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне на ***401 Атлянтык Авеню.*** Пачатак а 12-й гадзіне. Запрашаем усіх зацікаўленых.



*Нясьвіжская настаўніцкая сэмінарыя, 1943 год. Віталь Цярпіцкі справа ў белай кашулі.*

## ПОШУК СВАЯКОЎ

Шукаю брата маёй бабулі (альбо ягоных дзяцей ці ўнукаў), які ў 1929 годзе выехаў у Францыю на заробкі. Ягонае імя - БУЧА Антон. Нарадзіўся на Гарадзеншчыне ў вёсцы Баяры Жалудоцкага павету. Меў сясьцёр Аляксандру (маю бабулю) і Марыю, а таксама брата Уладзімера.

Пішыце на адрас:

*Аляксандар Хомчанка*
*в. Бердаўка, Лідзкі раён*
*231302 Гродзенская воб.*
**BELARUS**

альбо на электронны адрас:
**khomchanka@yahoo.com**


Уплаты дасылайце на адрас:
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.*

## Нашая фанатэка

# Голас рок-пакаленьня

**"Сьвятлічка"**, Моладзевае літаратурнае аб'яднаньне, Баранавічы, 2005, "Беларуская пэрспэктыва".




Бадай, не ўпершыню ў межах рубрыкі "Нашая фанатэка" мы ўзьнімаем пытаньні дзіцячай творчасьці ў нашым усё яшчэ забраным чужынцамі краі. Літаральна ў № 498 за ліпень 2004 году рэцэнзаваўся музычны дыск "Я люблю ліцэй: веру ў цябе", створаны навучэнцамі забароненай цяперашнімі ўладамі апошняй беларускамоўнай адукацыйнай установы ў Беларусі – славутага коласаўскага ліцэю. А вось цяпер новы выдавецкі праект, створаны – гэтак мовячы – на пэрыфэрыі, які паказвае, што беларускі дух не ўмірае нават пад прэсынгам ґвалтоўнай расейскай адукацыі. Як у папулярнай падчас нядаўняй памаранчавай рэвалюцыі ўкраінскай песьні: "Дух не вмирає, дух не згаса".

Зрэшты, перш чым гаварыць пра новае выданьне, варта згадаць тых, дзякуючы каму яно сталася магчымым (бо не лукашэнкаўскае-ж міністэрства культуры будзе ўкладваць грошы ў культуру менавіта БЕЛАРУСКУЮ; гэтага ўжо й не чакае ніхто, ім бы славянафільскія базары каўбасіць, дзе багацьця славянскага шматгалосься чуваць усё менш). Беларуская культура падтрымліваецца сьвядомымі беларусамі сьвету.

Мы ня раз згадвалі ў нашым цыкле публікацыяў вядомы дабрачынны фонд "Orsa-Romano". Аказваецца, ён падтрымлівае ня толькі сур'ёзныя прамысловыя культурніцкія ініцыятывы (выданьне альбомаў славутых беларускіх гуртоў "Стары Ольса", "Guda"), але й сьціплыя прыватныя праекты.

Сьціплыя? Так, баранавіцкі энтузіяст краязнаўчай справы Алесь Бакач ня здолеў пакуль выйсьці на глябальныя прад'юсарскія цэнтры, авалодаць вялікімі прамысловымі тыражамі, дык падрыхтаваны ім прадукт зусім ня йдзе ў канве жорсткіх законаў шоў-бізнэсу, але калі-небудзь мы ўсё-ж станем цывілізаваным народам, які жыве не пражоўваньнем насыпанай кімсьці жвачкі, а асэнсаваньнем досьведу свайго пройдзенага шляху. Вось падыйдзем тады ў CD-краме да паліцы "Літаратурныя запісы. Гісторыя" і што там знойдзем? Ну аповесьць Караткевіча "Ладзьдзя роспачы" ў вэрсіі "Старога Ольсы", ну яшчэ Багдановічаўскі "Вянок" пры Саветах нехта паспрабаваў асэнсаваць... І ўсё?

Вось тады пільныя й прыгадаюць гэты баранавіцкі літаратурны праект Алеся Бакача з утульнай і цёплай назвай "Сьвятлічка", які распачаў сваю дзейнасьць у 2004 годзе, а ўжо к лету 2005 падрыхтаваў гэтае выданьне (і хай наклад вельмі сьціплы, усяго некалькі дзесяткаў асобнікаў, але сур'ёзна й прафэсыйна зроблены). І калі вы чулі штонебудзь пра даволі вядомую ў гэтым горадзе літаратурную суполку "Сьвятліца", дык зможаце здагадацца, што тут ад яе адгалінаваўся й дзіцячы парастак. Ну як-жа ня думаць пра будучыню?

"Куды падзецца сёньня юным беларусам, якія маюць розум і мужнасьць размаўляць на роднай мове ды яшчэ й пішуць на ёй свае творы? – піша ў уступным слове кіраўнік суполкі Алесь Бакач. І адразу-ж пераконвае: – У Баранавічах "Сьвятлічка" для беларусаў ёсьць! Гэта беларускае літаратурнае аб'яднаньне старшаклясьнікаў, створанае ў верасьні 2004 году пры грамадзкай арганізацыі "Творчае згуртаваньне "Сьвятліца".

Гартаючы мультымэдыйныя файлы гэтага выданьня (вершы юных паэтаў, артыкулы з баранавіцкай прэсы пра жыцьцё суполкі, уласны фотаархіў, дзе ня толькі моманты сяброўскіх узаемаабмеркаваньняў, але й падарожжы па знакавых мясьцінах роднай зямлі, сустрэчы зь вядомымі людзьмі, сапраўды культавымі асобамі – бардамі Алесем Камоцкім і Эдуардам Акуліным, пісьменьнікамі Барысам Пятровічам і Зьміцерам Вішневым, паэтамі Леанідам Дранько-Майсюком і Сержам Мінскевічам), я міжволі прыгадаў свае літаратурнае юнацтва ў падобнай літаратурнай суполцы "Тутэйшыя". Менавіта-ж адтуль выйшлі знакамітыя цяпер Анатоль Сыс, Міхась Скобла, Адам Глёбус, Андрэй Федарэнка... Дык вось і цікава ўглядацца ў гэтыя дапытлівыя абліччы юных творцаў: каму зь іх наканавана будзе стаць сымбалем заўтрашняй Беларусі? Мо гэта здолее адзінаццаціклясьнік Іван Сякерын, які віртуозна інтэрпрэтуе ў сваіх вострасучасных вершах вобразы беларускай клясікі, услухоўваючыся ў коласаўскія радкі:

*Вось два чалавекі ў палескай*
*глушы –*
*Андрэй Лабановіч зь Ядзьвісяй,*
*на ростані іх, на шляховым*
*крыжы*
*сышліся дый зноў разышліся.*

А мо лёс будзе больш зычлівы да ягонай равесьніцы Ірыны Крыкалы, якая ў сваім юначым узросьце здольная ўжо фармуляваць глыбокія філязофскія асэнсаваньні важнасьці мовы, слова ў чалавечым жыцьці. Вось што яна піша ў сваім вершы "Сьвятая Мова":

*Калісьці, акрываўленая, ты*
*прайшла кругі ня Дантавага*
*пекла:*
*з табой гарэлі вёскі, гарады...*
*А ты, аднак, Сьвятая,*
*уваскрэсла.*

Баючыся няўдзячнай ролі прарока (пакуль аднаму напрарочыш, другому насурочыш і... напорасься на крыўды), сьпяшаюся ў гэтай рэцэнзіі адно зафіксаваць сваю радасьць адкрыцьцяў. Гэта радасьць наўзор пачуцьця грыбніка: ён менш радуецца, купляючы на базары цэлы кошык адборных грыбоў, затое невымоўныя пачуцьці абуджае адзін прыгожы абабак ці нават маслюк, асабіста сустрэты ў лесе пад елкай. Вось і я, слухаючы й праглядаючы гэты дыск, быў гэткім грыбніком, які адкрывае тое, што яшчэ ніхто не кранаў.

Слухаючы? Так! Асноўная частка дыска – гукавая. На фоне гукаў клясычнай музыкі дзеткі самі чытаюць свае вершы й кароткія апавяданьні. І гэта яшчэ больш правакуе на глыбейшае асэнсаваньне, а потым усё-ж і на прароцтвы, бо рэальныя таленты, яшчэ нікому ня ведамыя, разгортваюцца перад табой: Алена Кандратчык, Аксана Купчынская, Дар'я Логінава, Алена Муха, Насьця Курач, Алена Квашына, Яўгенія Макарава, Надзея Хвалько, Ірына Мартынава, Алена Дзяніщчык... Але ад прароцтваў я ўсё-ж устрымаюся.

Лепш асобна сказаць пра мастацкую аздобу выданьня, бо ўжо ў ёй праглядае сьпеласьць творчых памкненьняў: на тле даматканага ручніка, узятага з Баранавіцкага краязнаўчага музэю сфатаграфаваная творчая інсталяцыя "Рух" баранавіцкага мастака Алеся Фалея. Пры чым у натуральным выглядзе гэтыя элемэнты аздобы можна паглядзець асобна на мультымэдыйных файлах дыска.

Глядзіш гэтак на агульнае каляровае фота сяброў суполкі "Сьвятлічка" пад трэем дыска (прыгожыя дзяўчынкі й хлопчыкі, беларускія плякаты, рок-н-рольныя зоркі, музычны цэнтар "Panasonic") і думаеш: ну вось яны, джынсавікі, рок-н-рольнае пакаленьне, якім нас палохалі тутэйшыя ўладатрымальнікі розных часоў, а ў душах у іх больш жывога й чалавечага, чым у іхніх самазваных кантралёраў. Дык таму й жыве Беларусь!

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**

## Рэцэнзія

# Паняверaныя беларускія жаўнеры

**Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна.** Артыкулы. Дакумэнты. Бібліятэка Бацькаўшчыны. Мінск 2004 г. Бачын 121, фотаў 24, дакумэнтаў 2.



Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне
«Згуртаваньне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 2

Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна

Артыкулы, дакумэнты

*Можа, сэрцу мне даць адпачынак*
*На аблоні суцішных вятроў?*
*Макі, макі на Монтэ-Касіна*
*Беларуская жывіць кроў.*

**Міхась КАВЫЛЬ**

У 2004 годзе выйшла другая кніга маладога беларускага гісторыка Юрыя Грыбоўскага аб беларусах, якія ваявалі ў Італіі ў складзе Польскага ІІ-га корпуса, які быў пад брытанскім камандаваньнем. Гэтая кніга ёсьць прысьвечаная толькі бітве за Монтэ-Касіна ў 1944-м годзе.

Напачатку ў змаганьні за Монтэ-Касіна бралі ўдзел розныя вайсковыя часткі зь вялікімі стратамі, але без посьпеху. Потым было даручана Польскаму ІІ корпусу пад камандаваньнем генэрала Ўладыслава Андэрса (колішняга царскага афіцэра) штурмаваць і заняць кляштар на Монтэ-Касіна і гэтым адкрыць дарогу на Рым. Разьмяшчэньне кляштара на гары было вельмі добрым для абароны, якую там трымалі нямецкія парашутысты. Яны бараніліся з тэўтонскай зацятасьцю, не здаваліся.

Пасьля цяжкіх кравапралітных баёў, зь вялікімі стратамі ў жаўнерах, Польскі корпус здабыў Монтэ-Касіна 18.05.1944 г. і вывесіў там свой нацыянальны сьцяг. Дзеля таго, што ў Польскім корпусе было шмат беларусаў, Юры Грыбоўскі зацікавіўся гэтым, вынікам чаго і стала вышэйназванае выданьне.

Кніга складаецца з пятнаццаці частак. У ёй ёсьць артыкулы розных аўтараў, фатаграфіі, дакуманты й перадрук успамінаў Пятра Сыча пад назовам "Сьмерць і салаў'і". Такі падбор матар'ялаў дае кнізе ня толькі больш цікавасьці, але і робіць яе вартасьць большаю.

Эпіграфам да кнігі выбраны сумны верш Міхася Кавыля пад назваю "Макі". Потым ідзе прадмова Хведара Кажаневіча, удзельніка бітвы за Монтэ-Касіна, тады 19-гадовага жаўнера. Х. Кажаневіч ёсьць родам зь вёскі Любельполь каля Пінску. 10.02.1940 г. яго разам з усёю сям'ёю Саветы брутальна вывезьлі на катаргу ў Архангельскую вобласьць. Каб ўратаваць сваё жыцьцё і сваіх родных ў 1942-м годзе ён без усялякага польскага патрыятызму уступае ў польскае войска, якое тады фармавалася ў Узьбэкістане. Ягоная прадмова будзе добрым гістарычным тлумачэньнем удзелу беларусаў ў бітве за Монтэ-Касіна.

Укладальнік кнігі Ю. Грыбоўскі апісвае гісторыю ўтварэньня польскага войска ў СССР у 1941-42-м гадох: як і чаму польскія грамадзяне апынуліся ў СССР, у якіх абставінах і дзе пачалі арганізоўваць войска; якая была ягоная мэта; як ставіліся Саветы й польскі ўрад у Лёндане да гэтай справы; нацыянальны і рэлігійны склад войска; цяжкасьці, зь якімі сутыкнуліся беларусы, былыя грамадзяне Польшчы, якія хацелі уступіць да гэтага войска (вымаганьні Саветаў і палякаў); выезд у Іран у 1942-43 гадох і г. д. Усё гэта апісана бяз патасу, навукова, дэтальна і аб'ектыўна.

У кнізе ёсьць перадрук успамінаў Пятра Сыча, афіцэра-беларуса, удзельніка бітвы за Монтэ –Касіна. Гэтыя ўспаміны друкаваліся першы раз у беларускай эміграцыйнай газэце "Бацькаўшчына" ў 1963-64 гадох. Успаміны не былі закончаныя, бо аўтар заўчасна памёр. У Беларусі яны друкаваліся ў часапісе "Полымя".. Няма сумневу, што сьв. памяці Пётра Сыч меў вялікія мастацкія здольнасьці да пісаньня. Ягоныя апісаньні людзей, падзеяў, духоўных і фізычных перажываньняў жаўнераў перад і падчас бітвы належаць да найлепшых у беларускай эміграцыйнай літаратуры. Шкада, што заўчасная сьмерць не дазволіла яму скончыць распачатую працу.

У кнізе ёсьць сумны для чытаньня "Сьпіс беларусаў і нараджэнцаў Беларусі, палеглых падчас бітвы за Монтэ-Касіна й пахаваных на тамтэйшых могілках". У гэтым сьпісе ёсьць 180 прозьвішчаў. Сярод іх аж 47 асобаў былі праваслаўнай веры й адзін грэка-каталік, г. зн. 26,67% альбо трохі больш за чвэрць ад агульнай колькасьці. Мы ведаем аднак, што праваслаўных беларусаў загінула нашмат больш, бо многія зь іх, каб уступіць у польскае войска ў СССР мусілі падавацца за палякаў і рыма-каталікоў.

У сваёй прадмове Хведар Кажаневіч наракае, як прыкра і сорамна бачыць, што ўнёсак беларусаў у здабыцьцё Монтэ-Касіна дасюль ніколі й нідзе не ўзгадваецца. Беларусы ваявалі, пралівалі кроў і аддавалі свае жыцьці ў чужых краёх, у чужых мундзірах, пад чужымі сьцягамі, за чужыя справы, часам нават сярод варожа да іх настроенага асяродзьдзя. І цяпер, пасьля 60-ці гадоў, мала хто аб іх ведае і ўспамінае на Бацькаўшчыне.

**Заканчэньне на бачыне 7**

# Узнагароды імя Зоры КІПЕЛЬ

## за лепшую кнігу ці артыкул пра Беларусь

Паўночна-Амэрыканская Асацыяцыя Беларусаведных студыяў разам зь сям'ёй в. п. Зоры Кіпель з задавальненьнем паведамляюць пра ўстаноўленні дзьвух грашовых прэміяў: **$500** за лепшую кнігу й **$200** за лепшы артыкул на беларусаведную тэму. Прыймаюцца да разгляду публікацыі 2002-2005 гадоў у беларускай ці ангельскай мовах. Тэматычна публікацыі могуць ахапляць літаратуру, мовазнаўства, гісторыю й палітыку. Друкі, якія ўдзельнічаюць у конкурсе,будуць разглядацца спэцыяльнай камісіяй Асацыяцыі Беларусаведных студыяў. Удзельнікі конкурсу мусяць прыслаць свае друкі да 1 студзеня 2006 году на адрас:

***Dr. Curt Woolhiser***
***Harvard University***
***Department of Slavic Languages and Literatures***
***Barker Center 327, 12 Quincy St.***
***Cambridge, MA 02138-3804***

Пераможцы будуць аб'яўленыя летам 2006 году.

* * *

The North American Association for Belarusian Studies and the family of the late Zora Kipel are pleased to announce two annual prizes, for new publications in Belarusian Studies, the Zora Ki[pel Book Prize, and the Zora Kipel Article Prize. The prizes, **$500** for books and **$200** for articles, will be awarded to the authors of outstanding new publications in the fields of Belarusian cultural studies, literature, linguistics, history and politics. Books and articles published in the last three years (2002-2005) in either English or Belarusian are eligible. Winners will be selected by a panel of judges made up of NAABS officers and members. To enter the competition, please send a copy of your book or article to the following address by January 1,2006:

***Dr. Curt Woolhiser***
***Harvard University***
***Department of Slavic Languages and Literatures***
***Barker Center 327, 12 Quincy St.***
***Cambridge, MA 02138-3804***

Winners will be announced in the summer of 2006.

## Монтэ Касіна

*Заканчэньне з бачыны 6*

Дазволю сабе зрабіць адную заўвагу. Тут, у Англіі, палякі часамі наракаюць, што ангельцы не заўсёды ўспамінаюць пра ўдзел палякаў на заходніх франтах. Дзіўна такое чуць, бо самыя палякі ніколі не прыгадваюць пра ўдзел беларусаў у іхнім войску.

Кніга Юрыя Грыбоўскага "Беларусы ў бітве за Монтэ-Касіна" ўжо ад даўжэйшага часу была патрэбная. Яна выносіць на выяў забытых, паняверанах і закляймаваных Саветамі "андэрсаўцаў"-беларусаў, якія ваявалі з агульным ворагам – фашызмам. Яны ўступалі ў польскае войска ў СССР не з вялікай ахвоты, але з-за тых абставінаў, у якіх апынуліся па віне Саветаў. Беларусы апынуліся ў СССР таму, што ў 1939 годзе трапілі ў савецкі палон і былі вывезеныя на ўсход, ці брутальна вывезеныя цэлымі сем'ямі на катаргу. Дык ці можна дзівіцца, што гэтыя людзі хацелі ўступіць у польскае войска у СССР, каб толькі выехаць з "савецкага раю", які стаў для іх сапраўдным пеклам?

Успамінаю "паняверанаых беларусаў" былых жаўнераў польскага войска, бо трэба памятаць, што па вайне многія зь іх вярнуліся да сваіх родных у Беларусь. А там яны зараз-жа аказаліся пад наглядам. Якуб Конан, які вярнуўся на Бацькаўшчыну ў 1948-м годзе ўспамінае, што "...мясцовыя ўлады мелі загад сачыць за намі..." І сачылі! Але гэтага было замала, бо ў праклятую ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951-га году ўсіх іх разам зь сем'ямі Саветы арыштавалі й вывезьлі на катаргу ў Іркуцкую вобласьць.

Дзякуючы кнігам, артыкулам і руплівасьці сп. Грыбоўскага памяць аб беларусах-"андэрсаўцах" вяртаецца на Бацькаўшчыну, як птушка з выраю.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

Са смуткам паведамляем, што 26 красавіка 2005 году ў Пэнсыльваніі памёр шматгадовы падпісчык "Беларуса" **Леанід МУРОГ**, які нарадзіўся 29 студзеня 1926 году. Выказваем спачуваньні родным і блізкім нябожчыка.

# Алег ШНЭК
## (07.02.1930 - 16.08.2005)



У горадзе Мэльбурне ў Аўстраліі раптоўна памёр на сэрца грамадзкі дзеяч Алег Шнэк, Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі.

Нарадзіўся Алег у Расеі ў сям'і афіцэра Чырвонай арміі, якога пасылалі служыць у розныя куткі СССР. У сям'і было трое дзяцей, старэйшы брат Уладзімер і малодшая сястра Ліна. У 1939 годзе сям'я Шнэкаў вярнулася ў родны горад Слуцк, дзе і застала іх 2-я Сусьветная вайна.

Пасьля вайны сям'я Шнэкаў апынулася ў беларускія лягеры ДП Ватэнштат у ангельскай зоне Нямеччыны. У лягеры Алег вучыўся ў Беларускай гімназіі й належаў да беларускіх скаўтаў, вельмі любіў спорт і браў актыўны ўдзел ў Беларускім Спартовым Аб'еднаньні.

У траўні 1950 году Алег разам зь сям'ёю прыбыў у Аўстралію. У 1951 годзе далучыўся да беларускіх скаўтаў, зьвяз Усяслаў Чарадзей. Скаўцкія зборкі адбываліся ў доме Шнэкаў на "Муні Пондс". Ён быў адным з заснавальнікаў Беларускага футбольнага клюбу, аддзелу моладзі БВФ. Чатыры гады Алег гуляў у беларускай футбольнай дружыне "Зубр", а пасьля футболу гуляў у валейбольнай дружыне "Глэнрой".

Першыя шэсьць гадоў ён працаваў на чыгунцы, а пасьля пайшоў працаваць на абутковую фабрыку, бо хацеў вучыцца тэхнічнаму чарчэньню на вячэрнім аддзяленьні Мэльбурнскага тэхнічнага інстытуту. Пасьля чатырох гадоў вучэньня атрымаў працу на тэлефонным прадпрыемстве "Эрыксон". Скончыў сваю працу ён галоўным чарцёжнікам.

Пасьля выхаду на пэнсію стаў вельмі актыўным у беларускім грамадзкім жыцьці. Належаў да ўсіх беларускіх арганізацыяў у Мэльбурне. З студзеня 1992 году прызначаны Кіраўніком Краёвага штабу БВФ на Аўстралію. Алег Шнэк быў дэлегатам ад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі на І-м Зьезьдзе ЗБС "Бацькаўшчыны" ў Менску 8-10 ліпеня 1993 году.

Алег Шнэк пакінуў у смутку жонку Ніну і двух сыноў ( ад першага шлюбу) Жоржа і Петрыка.

Пахавальны абрад выканаў 22 жніўня 2005 году а. Аляксандар Кулакоўскі у саслужэньні а. Юрыя. Мясцовая царква (БАПЦ) не магла зьмясьціць усіх людзей, якія прыйшлі ўшанаваць памяць Алега Шнэка. Ён быў вельмі папулярнаю асобаю ня толькі сярод беларусаў, але і сярод людзей іншых нацыянальнасьцяў, а іх прыехалў цэлы аўтобус на беларускія могілкі на "Фоўкнэр", каб аддаць яму апошнае развітаньне. Труна нябожчыка была пакрытая бел-чырвонабелым сьцягам. Над магілаю прамову сказаў Аўген Груша, быў адсьпяваны жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў".

Беларуская грамада Мэльбурну страціла шчырага і адданага беларуса, які доўгія гады працаваў і змагаўся за лепшую долю сваёй Бацькаўшчыны.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ.

***Аўген ГРУША, Старшыня Фэдэральнай Рады БАА***

# Арсень МОНІД
## ( 15.08.1925 - 28.07.2005)

Арсень Монід нарадзіўся 15 жнівеня 1925 году ў вёсцы Хатуцічы на Віленшчыне.

Асьвету здабываў у Маладэчна.

Эміграваў у Парыж, у Францыі, дзе браў удзел у жыцьці Згуртаваньня Беларусаў. Адтуль выехаў у Канаду. Працаваў у вялікай кампаніі Масэй Фэргюсон у Брантфардзе ля Таронта.

Памёр пасьля доўгай і цяжкай хваробы 28 ліпеня сёлета. На яго жаданьне цела спалілі ў крэматорыі.

Арсень Монід належаў да тых рэдкіх ахвярных беларускіх патрыётаў, якія кіравалі нашым нацыянальным, грамадзкім і рэлігійным жыцьцём у Канадзе.

Шчырыя спачуваньні радні Арсеня Моніда.

ВЕЧНАЯ ЯМУ ПАМЯЦЬ!

***К. АКУЛА***

# Валянтын МІЦКЕВІЧ
## ( 03.09.1918 - 19.08.2005)



У Нью Ёрку, далёка ад Бацькаўшчыны на 87 годзе жыцьця скончыў свой цярністы шлях Валянтын Міцкевіч, сын Міхаліны, сястры Якуба Коласа.

Ад нараджэньня Валянтын жыў у Мікалаеўшчыне разам з бацькамі да часу, калі выбухнула 2-я Сусьветная вайна. Служыў у Польскім войску, удзельнічаў у абароне Варшавы, калі немцы напалі на Польшчу, але нямецкага палону яму ўдалося пазьбегчы.

Пасьля вайны ў тадышнім ліхалецьці Валянтын Міцкевіч апынуўся ў Францыі. Вучыўся ў Парыжы, быў актыўным у беларускіх арганізацыях, належаў да выдавецкай суполкі часапісу "Моладзь".

У 1961 годзе іміграваў у ЗША (Нью Ёрк), дзе ўжо раней пасяліўся ягоны брат Алесь і дзядзька Міхась Міцкевіч. Валянтын належаў да парафіі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на Рычмонд Гіл, быў сябрам управы аддзелу БАЗА, а жыў на Фляшынгу.

Пахаваны на беларускіх могілках у Іст Брансўіку, Нью Джэрзі.

Пакінуў у вялікім смутку жонку Таісу, брата Алеся і ягону жонку Тэрэсу, і іх дачок Марыю і Ялянту ды ўнука Юзіка.

Няхай памяць па ім трывае вечна.

# Лынтупка

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

Пад час нядаўнага візыту ў ЗША наш вядомы скульптар, а цяпер ужо й мастак, Алесь Шатэрнік падараваў мне карціну: невялікі (41х35 см) алейны абразок з выявай рэчкі Лынтупкі.

У хаце я паставіў падарунак на стол ля сьцяны, падумаўшы што трэба замовіць рамку ды заняўся іншымі справамі.

Увечары, калі сонца пачало хіліцца за далягляд, я глянуў на карціну й не паверыў сваім вачам. Пэрспэктыва паглыбілася, сьветлы прагалак над рэчышчам зрабіўся яшчэ сьвятлейшым, а ўзьбярэжная расьліннасьць шчыльнай сьцяной пацягнулася на тое сьвятло, нібыта хацела прыпасьці засьмяглымі вуснамі непрагляднасьці да адкрытасьці й чысьціні.

“Нешта падобнае адбываецца з нашым народам,” — падумаў я, адначасна пачуўшы няўтульнасьць думкі. Усё, казаў той, так, ды крышачку ня так. Здавалася-б унівэрсальныя законы прыроды мусяць тычыцца й чалавека. Але чалавек трымаецца гэтых законаў толькі да нараджэньня. Патрапіўшы ў сьвет народжаных ён адразу-ж пачынае жыць паводле створаных імі законаў, якія почасту не адпавядаюць і пярэчаць прыродным. Вядома, усе яны арыентаваныя альбо маюць выгляд арыентаваных на гуманізам; вядома, не гуманныя законы даўно растлумачаныя законьнікамі якраз у чалавекалюбным сэнсе, падмацаваныя сьвятымі пісьмёнамі, што трэба разумець як спасылку на Бога.

Прымітыўна, чалавечая прырода адпавядае статкаваму сьвятлалюбнаму тыпу. Зразумела, што тут нямала выняткаў, і нехта жыве на ўзор крата ці чарвяка, але пераважная бальшыня ўсё-ж цягнецца да Сонца, стараецца ўладзіць свой дабрабыт у сьветлых калёрах, а калі тое немагчыма — пакідае над сабой, як тая Лынтупка, сьветлую пляму рэчышча, магчымасьць чыстай дарогі або празрыстай мары...

Пакуль у думках складаліся гэтыя радкі Сонца канча схавалася за даляглядам. У пакоі зрабілася цёмна й сэнс прагалу над рэчышчам, які, ня гледзячы ні на што, заставаўся сьветлым, паглыбіўся. Абраз працягваў жыць сваім жыцьцём, працягваў несьці ўскладзены на яго эстэтычны (і ня толькі) абавязак.

А вось мы, уласьнікі не абраза, а рэальнай Лынтупкі, згубілі сваю сьветлую пляму. Адныя зь першых у сьвеце ірвануўшыся да дэмакратыі, стварыўшы шляхецкую рэспубліку й напісаўшы Канстытуцыю (Статут Вялікага Княства) у нейкі момант сваёй гісторы напэўна палічылі справу зробленай, адчулі сябе рыцарамі, раўнёй уласнаму сымболю “Пагоні” й супакоіліся. У выніку, законы прыроды ня змусілі доўга чакаць і драпежная зграя пачала сапраўднае паляваньне на рэальных людзей, на вынішчэньне ня толькі абаронцаў а й інтэлектуальнага рыцарства нацыі. У выніку адзін з галаўных народаў Эўропы апынуўся ў хвасьце. Сьветлы прагалак над рэчышчам — сымболь сьвятла й кірунковы знак згубіў агульнанацыянальны сэнс, рассыпаўся на сотні й тысячы падзнакаў, псэўдасымболяў. Крыўды й абразы ў бок нацыі сталі набываць абрысы нормы. Нешмалікія нязгодныя пачалі вінаваціць у сваіх праблемах суседзяў, перавялічыўшы іхную віну, каб схаваць сваю слабасьць. Мейсца пэрсанальнай адказнасьці заняла крыўда або нянавісьць. Там дзе роўныя Багам, разумеючы прымітывізам апанэнтаў мусілі-б толькі паблажліва ўсьміхнуцца, мы кідаемся ў рожкі, што раз нанова займаючыся самасьцьвярджаньнем, кідаемся, як той пісьменьнік Адам, на каго заўгодна, абы самім-жа сабе давесьці сваю-ж духовую заможнасьць. А тая зусім не патрабуе пацьверджаньня й толькі падзіўляецца з нашае невідушчасьці.

Наступнае раніцы я прачнуўся ад тупату й галасу. Мае сыны ўшчалі звычайную дзіцячую валтузьню, спыніць якую можна толькі, казаў той, беспасярэднім уварваньнем, што, у лепшым выпадку, падаруе яшчэ хвіліну-другую, каб даглядзець перапынены сон. Я ўвайшоў у пакой. Забава маладых зрынальнікаў аўтарытэтаў наўпрост пагражала “Лынтупцы”. Абраз уздрыгваў, узьбярэжныя дрэвы хісталіся, вада каламуцілася і мерылася пры першым зручным выпадку абрынуць на падлогу свае, мяшаныя з глеем і таплякамі струмені. Слоўна разьвязваючы этычны бок справы й фізычна ратуючы эстэтычны, я пераставіў падарунак майстра Алеся на іншы мацнейшы стол, дзе абраз адразу-ж зьніякавеў, ператварыўся ледзь ня ў бляклую копію-ілюстрацыю самога сябе. “Во гэта й ёсьць тое, пра што пісалася,” — мільганула ў галаве ды й зноў падумалася пра рамку.

Цяпер праходзячы ля карціны й кідаючы на яе позірк я горка ўсьміхаўся, маўляў, ніхто й нішто ня можа захавацца непарушным у часіны брутальных зьменаў. Але надыйшоў вечар і Лынтупка зноў ажыла. Ад пачатку крывавым пісягом у плынях, якога раней тут не было. Згадаўся Ўальд... Во яшчэ не хапала... Вядома, пісяг быў ды я яго не заўважыў... ці не зьвярнуў увагі? Зрэшты, ён зусім ненадоўга трымаў цэнтар. Сонца села, крывавая тэма вычарпалася й дамінанта паволі ізноў вярнулася да сьветлае плямы.

“Ну, не. Нашаму народу было значна цяжэй,” падумаў я, пераносячы абраз у змрочнае сутарэньне, куды ніколі не зазірае Сонца, і дзе ўжо некалькі месяцаў стаіць мой працоўны стол.

“Лынтупка” са спакойнай пакорай прыняла чарговы ўдар лёсу. Ейная плынь замарудзілася, спынілася. Прагал над рэчышчам ператварыўся ў звычайны сьлед пэндзаля зь белай фарбай. Ніхто больш не цягнуўся да сьвятла, ніхто больш не хацеў сымболяў. Згуртаваныя раней дрэвы сталі цяпер паасобку. Жухлі ўзьбярэжныя травы. Твор паміраў не здалеўшы пераждаць цемры. Надыходзіў момант, калі ўжо ніхто й нічога не магло ўратаваць майго народу. Апошняя надзея — штучнае, электрычнае асьвятленьне не дапамагала, дый што вартае можа вырасьці без натуралёвых умоваў.

Адлучыўшы электрыку я ўжо быў сабраўся пакінуць сутарэньне, калі раптам згадаў, што забыўся на стале акуляры. Вярнуцца забраць? Навошта? Вобраз памерлай Лынтупкі забіваў жаданьне пісаць, зьнішчаў натхненьне паклікаючы ў думкі злосьць і крыўду, нянавісьць і апатыю, адбіваў ахвоту чытаць, глядзець фільмы, знаёміцца з чужым сьветам, каб потым доўга зайздросьціць ня нашым перамогам, ён забіваў жаданьне бачыць дарогу нават праз свой сьветагляд, свае пачуцьці, карацей — свае акуляры.

І ўсё-ж я запаліў сьвятло, а запаліўшы нечакана сустрэўся з цудам. На мёртвым палатне, на тым, на іншым беразе Лынтупкі, сьвежымі калёрамі зеленеў жмут расьлінаў. Яшчэ цяжка было сказаць што гэта — пачатак новага дрэва, будучы куст, ці ўсяго толькі высокія сьцяблы травы, але справа зусім ня ў тым. Расьліна жыла й цягнулася да белага сьледу ад пэндзаля, да сьледу, які ізноў марудна ператвараўся ў сьвятло. У вершаліне расьліны, або з-за яе выступалі кветкі. Маленькія, ледзь бачныя з жаўцізной і чырваньню — сонцам і крывёй адраджэньня над крывавым пісягом дарогі продкаў у плынях Лынтупкі-Леты.

Я ўзяў абраз і панёс яго назад у пакой. Рэч, якая нагадвае пра мінулае й прадказвае будучыню павінна быць побач. Вядома, можна было працягнуць экспэрымэнт і ўсадзіць Лынтупку ў раму, можна было зьмяніць тую раму на іншую, потым яшчэ і яшчэ. Але ня можна бясконца гуляць са сваімі пачуцьцямі да Радзімы. Ня можна рабіць ні зь імі ні зь ёй ніякіх маніпуляцыяў. Трэба йнакш. Як?

Я начапіў на нос акуляры й сеў за кампутар. Колькі няскончанага, недапісанага. І зайздросьціць павінны нам — народу, які мае такіх майстроў як Алесь Шатэрнік.





НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

В. Яскевіч ....................30
Н. Кіт ...........................30

Замест кветак на магілу Яніны КАХАНОЎСКАЙ:

Э. Норык .....................100
М. Шабуня ....................70
Б. і Т. Русак ..................50
А. Сёмуха .....................50

Замест кветак на магілу Валянтына МІЦКЕВІЧА:

Н. Кіт ...........................50

Замест кветак на магілу Арсеня МОНІДА:

К. Акула ........................50

Замест кветак на магілу Нюры РУСАК:

У. Русак ........................50

Усім шчыры дзякуй!

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*

ISSN 1054-9455

Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэкламадаўца.